Год I. Сьнежань 1932 г. № 12.




# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

**Цана асобнага нумару 30 гр.**

**Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.**

**„ год . . . . . 3. 50.**

**Заграніцу ўдвая даражэй.**

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

**Wilno, ul. Wielka 58.**

**Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.**

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Сьнежань 1932 г. № 12.

## Сьвята Сьв. Мікалая.

(*6 сьнежня*).

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ, РАЗЬДЗЕЛ 6, 17—23.*
### *ЗАЧАЛА 24.*

*17. У той час, стаў Ісус на роўным месцы, і множства вучняў Яго, і вельмі многа народу з усяе Юдэі і Ерузаліму, і прыморскіх месцаў Тыру і Сідону,*

*18. што прыходзілі паслухаць Яго і вылячыцца ад хваробаў сваіх, і церпячыя муку ад нячыстых духаў: і здаравелі.*

*9. І ўвесь народ стараўся дакрануцца да Яго, бо ад Яго выходзіла сіла і аздараўляла ўсіх.*

*20. І Ён, падняўшы вочы свае на вучняў сваіх, гаварыў: шчасьлівыя ўбогія духам, бо вашае ёсьць Царства Божае.*

*21. Шчасьлівыя галодныя цяпер, бо насыцiцеся. Шчасьлівыя плачучыя цяпер, бо засьмяецеся.*

*22. Шчасьлівыя вы, калі зьненавідзяць вас людзі, і калі разлучаць вас і будуць зьневажаць, і выкінуць імя вашае, як зло за Сына Чалавечага.*

*23. Радуйцеся ў той дзень і весялецеся, бо вялікая нагарода ваша на небе*

---

*„Правило вѣры... яви тя стаду Твоему... Отче Священноначальниче Николае“.*

*(Трапар сьв. Мік).*

Справядліва, мае дарагія браты, сьвятая Царква называе Сьв. Мікалая Мірлікійскага Цудатворцу правілам веры, бо гэты пастыр быў запраўды прыкладам для сваіх авечак, як маюць верыць.

Яго вера, як сонца яснае, зазьяла на першым Сусьветным Саборы ў Нікэі ў 325 годзе. Паявіўся ў гэтым часе гэрэтык Арый, і пачаў пашыраць сваю гэрэтыцкую навуку, што Ісус Хрыстос ёсьць толькі вельмі разумны і сьвяты чалавек, а ня Бог. Гэта фальшывая навука вельмі пашыралася ў Афрыцы і Азіі, нават некаторыя япіскапы былі прыхільнікамі Арыя. Вялікая была небясьпека для Царквы Хрыстовай.

Тады айцы Сусьветнае Царквы сабраліся ў Нікэі, каб выясьніць навуку адносна да асобы Хрыста і каб абараніць Царкву Хрыстову ад арыянскай гэрэзіі.

Зьехалася 318 япіскапаў, паміж імі быў і Сьв. Мікалай з Міры Лікійскай. Ён быў галоўным барацьбітам на Саборы проці Арыя. Паводле яго навукі, Ісус Хрыстос ня толькі чалавек, але і Бог, роўны зусім Богу Айцу. Сьв. Мікалай запраўды быў правілам веры і для іншых айцоў Сьвятога Сабору. Арыянізм быў пераможаны. Саборам было пастаноўлена, як трэба верыць, і навука айцоў сабору адносна да асобы Ісуса Хрыста знаходзіцца ў сымболе веры Нікэйска-Цараградзкім, які сьпяваецца заўсёды пры адпраўленьні Сьв. Літургіі, паводле нашага ўсходня-славянскага абраду.

Сьв. Мікалай Цудатворца быў правілам веры. Паўстае пытаньне, якой веры? Пэўна, кожны адкажа, праўдзівай, Хрыстовай. Розныя ёсьць веры, вызнаючыя Хрыста, кожная сябе называе праўдзівай Хрыстовай, ёсьць вера каталіцкая, так званая праваслаўная і пратэстанская. Да якой належаў Сьв. Мікалай, якой веры быў правілам?

Пачнём ад пратэстанскай або лютаранскай. Кожнаму ясна, што Сьвяты Мікалай ня мог бараніць гэтае веры, быць яе правілам. Чаму? А таму, што яе яшчэ ня было. Лютар заснаваў пратэстанскую рэлігію ў XVI стагодзьдзі, а Сьв. Мікалай жыў у першай палове IV стагодзьдзя.

Пяройдзем да нязлучанага праваслаўя. Праваслаўныя вельмі паважаюць Сьв. Мікалая Цудатворцу, называюць яго правілам веры нязлучанага праваслаўя, а нікому і да галавы ня прыходзіць сумлявацца ў тым, што Сьв. Мікалай ня быў і нават ня мог быць правілам веры нязлучанага праваслаўя.

Гэта ня трудна даказаць: Сьв. Мікалай жыў у IV стагодзьдзі, а нязлучанае праваслаўе,—разьдзел царкоўны,—паявілася ў XI стагодзьдзі. Ці падабаецца вам, ці не падабаецца, браты нязлучаныя праваслаўныя, але мусіце прызнаць, што Сьв. Мікалай не належаў да таго праваслаўя, што ня прызнае Папы Рымскага Кіраўнікам Царквы Хрыстовай на зямлі. Ведаем з гісторыі, што Сьв. Мікалай быў у лучнасьці з Рымскім Япіскапам, быў правілам веры тае, што прызнае Папу Рымскага Галоўным Пастырам стады Хрыстовае.

Доказам можа паслужыць гэты-ж самы першы Сусьветны Сабор у Нікэі, на якім браў выдатны ўдзел Сьв. Мікалай. Калі спытаемся ў гісторыі, хто быў кіраўнікам гэтага Сабору, павадыром яго? — дык гісторыя нам дае адказ: япіскап Гозыяш, прысланы з Рыму Папаю Рымскім, Сьв. Сыльвэстрам, каб ад яго імя кіраваў Саборам.

Ці-ж гэта ня лучнасьць усіх айцоў сабору, а таксама і Сьв. Мікалая з Япіскапам Рымскім? Праўда, было тады праваслаўе,але толькі злучанае з Рымскім Апостальскім Пасадам, і такога праваслаўя Сьв. Мікалай Мірлікійскі быў правілам. Ня можна сабе нават уявіць Сьв. Мікалая бяз лучнасьці з цэнтрам хрысьціянства, з Сусьветным Архірэем Рымскім.

Вось, дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, наша галоўная мэта, нас, злучаных праваслаўных або уніятаў, каб, як калісьці ня было розьніцы паміж хрысьціянамі ўсходу і захаду, паміж праваслаўнымі і каталікамі, так сама, каб і цяпер ня было гэтай розьніцы, каб усе злучыліся пад адным Галавою Царквы — на небе Ісусам Хрыстом, а на зямлі яго заступнікам Папаю Рымскім.

Ведама, што Сьв. Мікалай Мірлікійскі Цудатворца нязлучанымі праваслаўнымі вельмі паважаецца, але паважаецца таксама і каталікамі. Некаторым праваслаўным здаецца, што Сьв. Мікалай Цудатворца гэта Сьвяты толькі іх. А калі хто ім скажа, што Сьв. Мікалай каталік, дык гатовыя вочы вылупіць, гэта, — скажуць, — няпраўда.

Прывяду прыклад. Гэта было ў Маскве; адна інтэлігэнтная расейская дзяўчына хацела пакінуць адшчапенства і прыняць унію. На гэта не давала свае згоды яе маці, катарая часта малілася да Сьв. Мікалая Цудатворцы.

Аднаго разу гэтая дзяўчына кажа сваёй маці, што і Сьв. Мікалай быў каталіком, каталікі яго таксама, як Вялікага Сьвятога, паважаюць і мошчы яго цяпер знаходзяцца не ў царкве праваслаўнай, а ў каталіцкім касьцёле лацінскагага абраду, у італьянскім горадзе Бары. Вельмі зьдзівілася, чуючы гэта, маці і, не даючы веры, каб пераканацца, пастанавіла папытацца ў манахаў пры Іверскай часоўні,

пытаецца ў аднаго манаха, дзе знаходзяцца мошчы Сьв. Мікалая? Той адказвае, што ў Канстантынопалі, пытаецца ў другога, той кажа, ня ведаю, здаецца, ў Рыме, пытаецца ў трэцяга, той добра адказаў: з Міры Лікійскай у XII стагодзьдзі мошчы былі перавезены ў Бар да каталіцкага касьцёла, дзе і па сяньняшні дзень знаходзяцца.

Цяпер можна задаць пытаньне, на якое ня трудна адказаць. Як могуць знаходзіцца ў лацінскім касьцёле мошчы Сьвятога, каторага каталікі не паважаюць? А калі паважаюць, дык, значыцца, ён іх Сьвяты, сьвяты Каталіцкае Царквы!

Сьвяты Мікалай быў правілам веры, веры, якой вучыць адзіная, сьвятая, сусьветная, Апостальская Царква, якая знаходзіцца пад нявідочным кіраўніцтвам Галавы Царквы Ісуса Хрыста і пад відавочным кіраўніцтвам Сусьветнага Архірэя Папы Рымскага.

Будзем прасіць Сьв. Мікалая Цудатворцу, каб нязлучаным праваслаўным паказаў правіла веры, каб навучыў іх, як маюць верыць. Ён сам быў у лучнасьці з Рымскім Апостальскім Пасадам, хай праз сваё заступніцтва перад Госпадам Богам прывядзе да гэтага-ж злучэньня нязлучаных хрысьціян Усходу. Амінь.

*а. Антоні.*



**Г. Кастэльнык.**

# Вялікія людзі.

## Майсеевы развражаньні.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

(Дакончаньне).

Ад аднаго мне душа баліць: мяне моладасьць здурыла! мяне здурылі фальшывыя поэты! Поэты — папсаваныя ідэалісты, каторыя называюць сябе філёзофамі*), соцыялёгамі**). Яны фальшуюць прыроду! А фальш — заўсёды фальшам. Думаеш, што там, дзе зелена, адна толькі трава, а ў ёй мо' скрыта гадзіна? Ляжаш на яе — вось і маеш ліха.

Я хацеў раю для майго бяздольнага народу. Раю: багацьця для ўсіх і кожнага, свабоды для ўсіх і кожнага, роўнасьці для ўсіх і кожнага, самых салодкасьцяў для ўсіх і кожнага... І гэта зараз, ужо сяньня! „Ізраіль без мужыка і пана“ (бяз кіруючай інтэлігэнцыі і працоўнага народу, а пры роўнасьці ўсіх), вось гэта быў мой насьвяцейшы ідэал.

Якая-ж іронія! які нярозум! Сам я хацеў быць роўным для ўсіх маіх братоў, хоць іх людзкое „я“ яшчэ толькі ў пялёнках спавітае. Абходзіўся я з імі, як з роўнымі сабе. І ці ня праз гэта папаў я ў няшчасьце? — Вучыся, Майсей, вучыся, на сваіх уласных памылках.

Цяжка было майму распоэтызованаму сэрцу глядзець на тое, як два мае браты, няшчасныя катаржнікі, між сабою лаюцца, грозяць сабе пабоямі... Няўжо-ж мала ім бізуноў ад волатаў эгіпцян? І прыступіў я засмучаны да іх, кладу ім на плячо рукі, дый прашу іх лагодна, з сэрца: Брацьця, супакойцеся! Няўжо-ж мала вам бізуноў ад эгіпцян? Хоць-бы самі сабе вы ня збольшвалі мукаў!...

Але — о, Госпадзе Сьвяты! — тыя брацьця вызьвэрыліся на мяне, моў шалёныя сабакі: „Гэ! гэ! А ты хто такі? Хто паставіў цябе судзьдзёй над намі? Га! Ці ня хочаш ты і нас забіць, як забіў таго эгіпцяніна ўчора?“ І дзікай уцехай цешыліся, што мяне здрадзілі, што мне дапяклі... Ах, як цяжка, памірсна! Адзін другога забіць гатоў за кавалак хлеба, або за два, за адно дурное слова — для нікчэмнага

---

*) тыя, што займаюцца навукаю аб дасягненьнях чалавечай мудрасьці.

**) Знаўцы грамадзкага ладу (прыпісак перакладчыка).

зыску. Але для паратаваньня брата — і пальцам ня кіўне. На‘т гатоў ён здрадзіць таго, хто хоча ратаваць, — дзела благое хвілёвае ўцехі, каб сказаць пасьля: „А во, што я зрабіў яму! якую штуку яму ўрэзаў! Страшна! Не, гэта ня людзі! Гэта сабакі, што над косткай гатовы пазагрызацца насьмерць — брат брата, бацька сына, сын бацьку. Людзкая душа ў іх сьпіць, толькі зьвярыныя чуткія інстынкты ў іх ад'зываюцца.

О, так! Цяпер ужо я гэта разумею. Мая моладасьць мяне абдурыла, папсавалі мяне поэты! Я-ж снаваў думкі пра братэрства ў Ізраілі, каб ня было ніжэйшага і вышэйга — „без мужыка і бяз пана“... А ня так ёсьць на сьвеце, у эгіпцян і ўсіх народаў. Цяпер ясна бачу... Братэрства, дэмократызм, арыстократызм, абсолютызм — усё пустое, пустыя словы, пустыя гукі! А запраўдную вартасьць мае толькі тое: ці да народу адносіцца валадар з добрай воляю, ці з злою? Ці ён для народу бацькам, каторы дбае пра яго жыцьцё, ці катам, што думае пра яго сьмерць?

Эгіпцянам добра пры Фараоне, бо да іх адносіцца ён з добраю воляй, а Ізраілю пры ім дрэнна, бо да яго адносіцца Фараон з злою воляй. Мяне — свайго выхаванка, хацеў ён забіць з-за п‘яніцы эгіпцяніна; а хто губіць ізраільскія дзеці —тым ён раздае мэдалі-нагароды! От і ўсё!

Князёў, волатаў — але сваіх табе, Ізраілю, трэба! Ці будуць яны сякія, ці такія волаты — байка! Тое важна хіба для эгіпцян, а не для цябе. Эгіпцяне так багаты, што могуць перабіраць стравы, якія маюць быць на стале падаваны. А ты-ж з голаду паміраеш... Дакуль жыў твой Язэп, намесьнік Фараона, — датуль табе было добра, асабліва-ж у галодныя леты. Меў ты чэснае імя, меў права, меў зямлю, меў волю... А як ня стала тваіх верхаводаў — доля твая зрабілася, бы доля скаціны.

Ах! „Ізраіль без мужыка і пана“ — ці то ня выдумка хітрых Эгіпцян на згубу Ізраілю? „Без мужыка і бяз пана“ — значыцца: што Ізраіль ніколі не падымецца, не зьбярэцца ў адно, не ўфармуецца ў сільныя рады, ня знаціме сваей улады і ня меціме яе... а будзе кіснуць у балоце на векі-вечныя — пад чужымі панамі. Трэба-ж людзкой душы расьці ў нейкі бок. Душа Ізраіля не расьце ўгару, а ўнізня пнецца да сонца, а разгаліняецца па пад'зямельлі... „Ізраіль без мужыка і пана“ — о, няма нічога выгаднейшага для Эгіпцян, як гадаваць Ізраіля ў гэным хімэрным ідэале... прышпіліць яму „крыльля бяз пер‘я!“ Не паляціць Ізраіль гэткімі крыльлямі — яны хіба толькі на тое, каб іх Эгіпцяне зьядалі.

Знаю ўсю эгіпэцкую мудрасьць, але ня знаю народу, каторы вызваліўся з няволі і правіў сам сабою „без мужы-

ка і бяз пана“ — разумею — без сялянска-работніцкіх масаў, без інтэлігэнцыі. Знаю, што мужыкі і прайдзісьветы спасалі народ, але тады яны рабіліся волатамі-князямі, і дабіралі сабе інтэлігэнтаў для кіраваньня народам.

О, Ізраілю, запамятай сабе гэту навуку! Грэх табе і думаць: „Ізраіль без мужыка і бяз пана“.

З твае гліны я хачу збудаваць камяніцу, дзе ёсьць ніжэйшыя і вышэйшыя цэглы, але ўсе разам—адна сіла!

—:—

Аглянуўся Майсей назад. Надходзіла ўжо ноч. І ўздыхнуў Майсей:—О, Госпадзе, уразумі мяне, як сьлед! каб я пазнаў тое, што праўдзіва, каб я жадаў тога, што ёсьць збаўленьнем.

Вось, бачу, што я дасюль памыляўся. Чаго нідзе ня бачыў, пра што нідзе і ня чуў, тое хацеў здзейсьніць у Ізраілі. Хацеў я шчасьця для ўсіх маіх братоў і для кожнага з іх — шчасьця, „роўнасьці“ і „свабоды“... Ці-ж ня дзіцячыя гэта думкі?... Не, усе ня могуць быць шчасьлівымі! Таксама і ў Ізраілі, у Божым народзе, шчасьлівымі ўсе быць ня могуць! Так прырода пастулае, так Ты, Божа, пастулаеш, — а проціў Цябе няма змаганьня. Каму жыцьцё, а каму сьмерць; каму краса, каму розум; аднаму здароўе, а другому горб і сьлепата... Няўжо-ж прырода мела-б захоўваць паражытых старцаў і ўсякую блазноту — з міласэрдзя, з пачуцьця братэрства? Як бач увесь сьвет запоўніўся-б імі! Так жыцьцё само сябе зьнішчыла-б. Годзі! Шмат дрэваў з зямлі вырастае, ды ня ўсе дажываюць веку: чым старшы, чым прыгажэйшы лес, тым менш у ім дрэваў; рэшта мусіць гінуць.

Жыцьцё — дарагая рэч, дорага трэба аплачваць яго. А дзеці і поэты хацелі-б для сябе яго ўсё ўкрасьці!

Так! Дурнатой ёсьць: абяцаць народу зашмат. Гэта значыць: разьбіваць, марнаваць сілы і не асягнуць таго, што можна асягнуць.

Праца, сьвятасьць улады, паслух, нагарода і кара — вось закон для жыцьця народу. Крайнасьці родзяць аднолькавыя плады: што няволя — то і свабода.

О, Ізраілю! Запамятай сабе, што ня можа быць свабоды для ваўкоў і гадаў... Бо, калі ім даць волю, то ты будзеш мець няволю. Хто правіць народам, хай ня няньчыцца з імі! Бі зьмяю і яе зародак зараз — не ацягайся, ня ўступай! Бо, як перарасьце — атруціць тваю добрую волю.

—:—

Калі развважаў гэтак Майсей, на даліне пад скалою зьмяя,— што на-нач хавалася ў нару,— падняла галаў і сычала на няпрошанага гасьця ў сваім краі.

А Майсей хутка зьбег са скалы, дый забіў яе сваей палкай: А, каб твой род не размнажаўся! За дзесяток гадоў тваe нашчадкі знайшлі-б маіх братоў нават і ў Эгіпце!

Узьлез Майсей на сваё месца, а сонца ўжо хавалася за эгіпэцкімі далінамі, і наўкола ўжо надходзіла ноч, што ў лоне сваім носіць зоры.

—:—

Хвала Богу Ізраільскаму, каторы стварыў зоры і зямлю, і быў цьвярдыняю для Абрагама, Ісаака, Якава і Язэпа!

Хвала Яму за жыцьцё, за дзеннае сьвятло і за начныя зоры!

За слова пацехі, якое даў нашым бацьком — Абрагаму, Ісааку і Якаву!

Слава Табе, Госпадзе, ад усяго жывога, а перш за ўсё ад Ізраіля, Твайго выбранца, што да Цябе моліцца маімі вуснамі.

Не забудзь нас, Божа-Ягва, бо мы,—выбранцы твае,— гінем!

—:—

Так маліўся Майсей, а зорнае неба, — моў-бы на зоў яго малітвы, штораз ясьнейшым выступала, і аб'яўляла сваю адвечную славу і сілу.

—:—

Госпадзе! Усе сілы ў сьвеце, а сьвет-жа ў Тваіх руках! Няма нічога без Твайго слова! Уся наша мудрасьць усе думкі і дзеяньні — гэта толькі сільлё для нас самых калі Ты праціў нас. А наша немач — то наша сіла, кал Ты з намі. Ты даеш долю народам — долю і нядолю!

О, Божа нашых продкаў, Абрагама, Ісаака, Якава і Язэпа! Задоўга наша нядоля трывае! Ці-ж мы ня Твой выбраны народ?

Ці можа Ты нас ужо адкінуў? Адазьвіся, Божа Ізраілеў! Ты калісь гаварыў з нашымі бацькамі ды ўкладаў з імі сьвяты саюз. І караў Ты за іх народы і збаўляў — такая ўжо была Твая воля. Ці сяньня ўжо ня тыя часы?

Ці цяпер Ты ўжо ня наш Айцец? Ці ня будзеш ужо гаварыць з намі?!...

Прамоў, о Госпадзе Сьвяты, выяві нам сваю сілу, працягні сваю руку, і вызваль народ свой з нядолі!

Вось я адзін з цэлага Ізраіля, моў пасол, да Цябе пасланы. Другія-ж робяць цэглу для Эгіпцян, жуюць цьвёрдую скарынку свайго хлеба, — ня маюць часу пра Цябе думаць, шукаць да Цябе доступу.

Што будзе! Як будзе? Дзе? Калі?

Ах, натоўп думак прыгнятае душу! Пустошыць яе сілы, адлучае розум ад сэрца, волю ад сумленьня. Вера, незварушная вера — то сіла душы. Розум і сэрца, волю і сумленьне вера зьлівае ў адно растопленае жалеза, каторае спальвае ўсё, што яму замінае на дарозе!

Госпадзе! Мая вера — моў растопленае жалеза!

Не адступлюся ад Цябе, не! Ня ссумуюся і ня змучуся, аж пакуль не напоўню пустыню і тое зорнае неба сваімі ўздыханьнямі і малітвамі, аж пакуль не перальецца цераз верх нябесная чара, напоўненая маімі малітвамі і стогнамі, — аж пакуль не адазьвешся, Божа!

Аж пакуль не дастану біча з Твае рукі, — біча, каторы будзе для Эгіпцян зьмяёю, а для маіх братоў абручом, што злучыць іх у адно пад Тваім Імем.

Няхай страпянецца Эгіпэт! А Ізраіль, хай рыхтуецца да вялікіх справаў!

—:—

Так уздыхаў да Бога Майсей, уцякач, на скале ў Мадыямскай зямліцы, на самоце ўночы, на раздарожжы свайго жыцьця.

І ўлажыўся да сну на тэй скале. А неба — тое надпустыннае неба, каторага краса ёсьць нагародаю для пустыні за яе ўбогасьць і мёртвасьць, тое неба пакрывала Майсея і красавалася ня толькі там — угары, але і ў ягонай душы. І зоры—тыя, што на небе і тыя, што ў сэрцы — сьцераглі яго, каб ён заўтра, чуць сьвет, мог шчасьліва выбрацца ў далейшую дарогу, для шуканьня Бога і саюзу з Ім.

*Пералажыў* НАДБУЖНЫ.





# Урачыстасьць у Бытэні.

Бытэнь, гэта невялічкае мястэчка Слонімскага павету. Калісьці яна было слаўнае. Тутака ў 1613 годзе паўстаў кляштар айцоў Базыльянаў, каторы больш як праз 2 стагодзьдзі выхоўваў жыхароў Бытэня і акапічных вёсак у навуцы і моральнасьці хрысьціянскай. Першым ігуменам гэтага манастыра быў Сьвяты Язафат.

Урачыстасьць Сьвятога Язафата Сусьветная Царква, паводле лацінскага абраду, абходзіць 14 лістапада. На гэта сьвята Бытэньскі пробашч а. Балеслаў Гэльмэр папрасіў да Бытэня Яго Правялебнасьць Уладыку Мікалая (Чарнэцкага). Уладыка прыехаў да Бытэня 12 лістапада і быў урачыста спатканы. Увечары таго-ж дня прыехала 2 айцоў з Альбэртына: а. Піліп дэ-Рэжі і а. Антоні Неманцэвіч, прывязьлі яны з сабою 2 паслушнікаў і альбэртынскі хор. Зараз-жа была адслужана Усеначная, служыў а. Антоні, а Праасьв. Ўладыка з а. Пілілам вышлі на палиелей. Хор пяяў цудоўна. Жыхары Бытэня казалі, што такога хору яшчэ ня чулі. Запраўды было што паслухаць. Кіраваў хорам п. Ал. Турук.

На другі дзень, у нядзелю, служыў Сьвятую Літургію Праасьвяшчэнны Ўладыка Мікалай з альбэртынскімі айцамі. Натоўп народу ня мог зьмясьціцца ў царкве. Кожнаму хацелася, і праваслаўнаму і каталіку, паўглядацца на архірэйскую службу і паслухаць прыгожы сьпеў альбэртынскага хору,

Казаньне пабеларуску, пасьля эвангельля, сказаў а. Антоні Неманцэвіч, а пасьля заамвоннае малітвы Яго Правялебнасьць Япіскап Мікалай. Два гэтыя казаньні аб Сьвятым Язафаце народ выслухаў з вялікаю ўвагаю, абедзьве навукі зрабілі на людзей вялікае ўражаньне.

Увечары гэтай-жа нядзелі, пасьля набажэнства, прышлі шасьцёх дэлегатаў ад жыхароў нязлучаных праваслаўных да Яго Правялебнасьці Ўладыкі Мікалая і прасілі яго, каб прыслаў да Бытэня уніяцкага сьвяшчэньніка, каб заснованы быў у Бытэні уніяцкі прыход. Уладыка згадзіўся і ў хуткім часе паўстане ў Бытэні новая уніяцкая пляцоўка.

Некаторым паном, няпрыхільнікам усходня-славянскага абраду, здаецца, што нязлучаныя праваслаўныя хутчэй прымуць каталіцтва лацінскага абраду, як усходня-славянскага. Гэта няпраўда. Для прыкладу возьмем Бытэнь. Тут нязлучаныя праваслаўныя вельмі паважаюць ксяндза лацін. абраду Балеслава Гэльмэра, аднак не прылучаюцца, не нясуць сваіх дзяцей да яго хрысьціць, а каб прыехаў да іх каталіцкі сьвяшчэньнік усходня-славянскага абраду, дык

справа мела-б іншы абарот: чакаюць толькі сьвящчэньніка уніяцкага, ня хрысьцяць, пакуль што, сваіх дзяцей.

Урачыстасьць прайшла прыгожа і спакойна. Надарма павялічылі лік паліцыянтаў. ніхто і ня думаў адбіраць царквы, як фальшыва распаўсюджвалі няпрыхільнікі уніі.

Сёлеташняя ўрачыстасьць у Бытэні паказала, што кроў Сьв. Язафата, мучаніка за сьвятую справу злучэньня хрысьціян не прапала дарэмна. Там, дзе ён калісьці працаваў, ізноў паўстае сьвятая унія.

*Злучэнец.*



# Некалькі слоў аб праклёне.

Як ня прыкра аб гэтым пісаць, але, кіруючыся ідэяй самакрытыкі, раблю высілак і змушаю сябе згадзіцца з тым, што можа няма на сьвеце народу, які-б так страшэншэнна кляўся, як нашыя беларусы.

Трэба прызнаць, што праклінаць каго-б ні было вельмі брыдкая і ганебная рэч для чалавека наагул, а для хрысьціяніна яшчэ і вялікі грэх (гэта ня значыць, што няма граху для людзей, няверуючых у навуку Хрыстову, грэх ёсьць і для іх).

Нашыя пісьменьнікі даўно зразумелі, што праклён вельмі шкодная рэч: ён забівае вышэйшыя пачуцьці, разьвіваючы злосьць, ненавісьць і помсту ў чалавечай душы. Вось яны і стараліся надаць праклёну сьмешны, жартлівы характар, каб гэтым самым адхіліць яго злое значэньне. Падыход вельмі разумны і ён зрабіў сваё, зробіць яшчэ больш, калі жыхары нашае зямелькі больш пачнуць цікавіцца сваёю ўласнай літэратурай, у якой так яскрава адбіваецца нашае жыцьцё. — Пазнай самога сябе, — казаў вялікі грэцкі філёзоф. Задача трудная, аднак, у пэўнай меры магчымая і над'звычайна карысная: чым больш чалавек пазнае самога сябе, тым лягчэй яму падпарадкаваць розуму сваю парыўчывую і непаслухмяную натуру, гэтым самым лягчэй ухіліцца ад непажаданага паступку.

Праклён—гэта зусім непажаданы паступак. І ён часта вырываецца сам, калі слабы, бесхарактарны чалавек, пад наплывам злосьці, больш не ўладае сабою, а аддаецца цалком гэтаму агіднаму пачуцьцю і ў, брыдкіх словах, стараецца выліць накіпеўшую жоўць супроць пэўнае асобы (ці-ж,захацеўшы, ня можна сябе стрымаць ад гэтага?).

Хрыстос вучыў: „Калі табе дадуць у адну шчаку — падстаў другую“. У нас, між моладзьдзю, маюць звычай сьмяяцца з гэтых слоў. Не кажу, што ўсе, але шмат хто з тых „разумнікаў“, што, прачытаўшы дзьве тры брашуркі бальшавіцкага зьместу, лічаць сябе за пазнаўшых усю мудрасьць. Вось, каб яны ведалі, якая глыбокая навука крыецца ў гэтым кароценькім сказе, дык напэўна перасталі-б сьмяяцца.

Ці ня выказаў Ісус Хрыстос у гэтым сказе ідэю дабрадзейнасьці: ня быць мсьцівым, ахвотна прабачаць, зробленую нам, асабістую крыўду. За зло плаціць дабром? Ды ці не падыходзяць гэтыя вышэйсказаныя словы нашага Збаўцы і супроць праклёну? Падумайма, дык можа пераканаемся, што так. Падумайма яшчэ. Можа будзе гэта навука тае дасканальнасьці нашае душы, якая пазволіць нам увайсьці ў Валадарства Божае?

Мне часта прыходзіць на памяць яшчэ і другі сказ: „Любеце ворагаў сваіх — малецеся за іх“. Якая вялікая, запраўды, самаахвяра любіць ворага свайго. Маліцца за яго! І якая вялікая заплата нас чакае там, у небе, за гэта такое шляхотнае пачуцьцё!

А мы! — Клянём, ды ня толькі ворагаў сваіх. Колькі найдаражэйшых нам асобаў, найлепш нам спрыяючых, падпадаюць пад наш праклён, вызваны загрубелым матар'ялізмам. (Ці ня робім мы ў гэтым выпадку яшчэ большы грэх?).

Як прыкра чуць, калі маці, за якую-колечы маласьць, праклінае апошнімі словамі сваё дзіця. Ці-ж ёй даражэйшы той чарапок, які яно, нехаця, пабіла, як самое дзіця? Не! Але вось не падумае аб тым, што яе праклён можа прынясьці вялікую шкоду, як для яе самой, так і для яе дзіцяці.

Вось жа, ня вучыць я бяруся дарагіх чытачоў, бо сам я вельмі мала ведаю, але запрашаю іх да супольнае працы, старацца выкараніць зло ў нас самых, а злом лічу ўсё, што працівіцца веры Хрыстовай, і гэтым самым даць найбольшы прыклад тым, хто нас абкружае.

*Я Корчык.*



# Наш адказ.

Даю адказ на артыкул п. Уладыслава Есьмана пад назовам: „Niech wreszcie zatryumfuje prawda“ („Kurjer Nowogródzki“ ад 14 лістапада 1932 году № 287).

1. П. Есьман піша: *„што а. Урбан проціў слоў Хрыста, Каторы наказаў аддаваць Божае Богу, царскае цару, прадстаўляючаму тагочасную дзяржаву, дамагаецца ад нас, каб мы выракліся бацькаўшчыны і дзяржавы і злажылі іх на ахвяру працы Уніі.“*

Адкажу коратка: а. Урбан, не пярэчыць словам Ісуса Хрыста, а наадварот пацьвярджае патрэбу іх выпаўненьня, бо ганіць а. Урбан цэзарапапізм, каторы жадае, каб справы Божыя аддаць ня Богу, а цару, сьвецкай дзяржаве. Аднак ня трэба з гэтага рабіць выводу, што, каб служыць Богу, трэба вырачыся бацькаўшчыны і дзяржавы. Справа злучэньня хрысьціян, справа рэлігійная, Божая, справа сьвятая, а напэўна такая справа нікому не зашкодзіць, ані паасобным людзям, ані дзяржаве.

2. *Хто асьмеліўся так фальшыва і злосна паведамляць Сьвятога Айца аб варожых адносінах народу польскага да акцыі унійнае.“*

Вельмі прашу Пав. п. Есьмана ня гневацца на мяне і пазволіць сказаць праўду, хто прадставіў варожыя адносіны ня польскага народу, але некаторых (хаця іх і ня мала) палякоў да унійнае акцыі. Ніхто другі, як яны самыя. Пісалі проці гэтай сьвятой справы і гаварылі, а гэта ўсё чулі заграніцай, таксама пачуў і Сьв. Айцец. Заўсёды паўтараў і буду паўтараць, што польскі народ быў і будзе верным Апостальскаму Пасаду, толькі некаторыя адзінкі з польскага народу, як і ў іншых краёх, могуць гэтай вернасьці не дахаваць.

Унійная акцыя, гэта ня толькі паняцьце якоесьці аб мэце злучэньня, але гэта справа практычная, жыцьцёвая. Царква ня толькі заахвочвае да адзінства, але таксама паказвае на спосабы, вядучыя да дасягненьня адзінства, кіруе гэтай справай. Ад Апостальскага Пасаду мэта і мэтоды для дасягненьня мэты.

Хто выступае проці мэтодаў Апостальскага Пасаду, той выступае проці самой унійнай акцыі, бо немагчыма сабе прадставіць унійную акцыю бяз мэтодаў.

Пэўна-ж, адносна да злучэньня хрысьціян розныя могуць быць мэтоды. А да Апост. Пасаду належыць выбраць спосаб адпаведны, да яго належыць справа кіраўніцтва рэлігійным жыцьцём верных.

Я ўжо сказаў, што зьяўляецца жоралам паведамленьня Сьвятога Айца аб варожых адносінах некаторых сфэраў

польскага народу да унійнай акцыі, дзеля чаго, думаю, несправядліва Пав. п. Есьман вінаваціць кагосьці, і бяз немцаў Сьв. Айцец можа ведаць, дзе і якія адносіны да унійнае акцыі.

Зьвярну ўвагу на адзін сказ з артыкулу Пав. п. Есьмана, каторы датычыць ня толькі айцоў езуітаў з Альбэртына, але ўсяго Таварыства. Хаця Пав. п. Есьман выразна не гаворыць, па зразумелай прычыне, але кожны ведае, каму пратэстанты і іншыя ворагі Каталіцкае Царквы рабілі зусім несправядлівы закід, што езуіты трымаюцца прынцыпу: „Мэта апраўдавае сродкі".

З вялікім засмучэньнем і прыкрасьцю прачытаў гэты сказ. Паўстала ў маім сэрцы абурэньне, мушу сябе ўстрымліваць, каб ня выявіць яго. Прыходзілася гэтакія вымыслы аб айцох езуітах чытаць у пратэстанскіх кніжках,—але першы раз спатыкаю, каб так пісаў аб сынох сьв. Ігната каталік, выступаючы ў абароне каталіцкае справы.

Ведама, што а. Ро ў 1852 годзе злажыў на унівэрсытэце у Гэйдэльбэргу 1000 зл., а ў 1904 годзе Капэлян Дасбах з Трэвіру 2000 зл. таму, хто-б даказаў, што сказ: „Мэта апраўдавае сродкі"выйшаў ад езуітаў, знаходзіцца ў кнігах, імі напісаных. Да сяньняшняга дня яшчэ не знайшоўся ні адзін вучоны, каб гэта даказаў, і ня знойдзецца, бо гэта даказаць немагчыма.

Мне здаецца, што гэты сказ вырваўся з-пад пяра Пав. п. Есьмана незнарок, ня хочацца мне верыць, каб добры каталік хацеў зумысьля паўтараць вымыслы пратэстантаў.

3. Далей піша Пав. п. Есьман аб Айцох Езуітах—усх.-славян. абраду, што яны *„робяць памылкі і нетактычнасьці, каторыя з аднаго боку падрываюць іх аўторытэт і ўплывы, а з другога — дражняць народ польска каталіцкі."*

Айцы Езуіты усх.-славянскага абраду хацелі-б захаваць аўторытэт і ўплывы, вельмі ўдзячныя былі-б Пав. п. Есьману, каб ім у гэтай справе памог. Хай выбачыць Пав. п. Есьман, але мушу зазначыць, што ўсё тое, што ён піша аб Айцох Езуітах ня можа служыць для ўзмацаваньня іх уплываў і аўторытэту.

4. *„Чаму,* — гэтак піша Пав. п. Есьман у канцы артыкулу, — *Япіскап Пшэзьдзецкі, так ласкава прыняты Сьвятым Айцом, не адважыўся прадставіць яму ўсяе праўды аб прапагандзе Уніі. ."*

Пав. п. Есьман, здаецца, згаджаецца з намі, што Я. Прав. Япіскап Пшэзьдзецкі ведаў аб праўдзівым стане унійнае працы ў Польшчы, сьведчыць аб гэтым яго ліст аб унійнай працы ў Польшчы, толькі не адважыўся прадставіць усю праўду. Дзіўная рэч, чаго меў баяцца Япіскап Пшэзьдзецкі, праўды? О не, хай даруе Пав. п. Есьман, але не магу з ім згадзіцца, каб зумысьля Япіскап Каталіцкі та-

кі, як Япіскап Пшэздзецкі, не хацеў казаць Сьвятому Айцу праўды. Хай выбачыць Пав. п. Есьман, але мушу сказаць, што дзіўным здаецца, як сьвецкі чалавек адважваецца вучыць каталіцкіх япіскапаў у Польшчы, як яны маюць прадстаўляць справы рэлігійныя Сусьветнаму Архірэю Папе Рымскаму.

—*Не сумляваемся,*—піша Пав. п. Есьман аб польскіх япіскапах, — *што будучы роўнымі сваім папярэднікам адносна да вернасьці Апостальскаму Пасаду, выяўляючца, як і тыя, добрымі патрыётамі, і дарагою ім ёсьць сіла і дабрабыт толькі што заваёванай Бацькаўшчыны."*

На гэта цалком можна з Пав. п. Есьманам згадзіцца, з маленькім дадаткам, што япіскапы Сусьветнае Царквы ў Польшчы ня толькі любяць цэлым сэрцам сваю Бацькаўшчыну, але таксама ведаюць, якая дарога вядзе да дабрабыту Польшчы. Калі пад павадырствам Сьвятога Айца пачалі унійную працу у ўсходня-славянскім абрадзе і яе падтрымліваюць, то робяць гэта з глыбокага перакананьня, што справа сьвятая, Божая ня можа зашкодзіць умілаванай Бацькаўшчыне.

У канцы гэтага адказу зьвяртаюся да Пав. п. Есьмана з просьбай, выбачыць мне, калі якім-нібудзь словам яго і яму спагадаючых абразіў. Мая мэта была — унясьці крыху сьвету да справы унійнае, будучы пераконаным, што многа гэтай сьвятой справе шкодзіць нясьведамасьць.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

**Місіі і Папа Піус XI.** За 10 гадоў панаваньня Папы Рымскага Піуса XI пашло на місіі да паганскіх краёў 4.000 місіянэраў. Лік місійных эпархіяў узрос да 475, а лік наверненых узрос на 15,500,000.

(КАП.) **Два ведамых палітыкі паступілі ў манастыры.** Прафэсар рымскага права Фэррарскага Каралеўскага Унівэрсытэту Людвік Борэттіні, ведамы добра ў навуковых і палітычных колах, уступіў да навіцыяту а.а. Езуітаў. Адначасна надышла вестка, што да навіцыяту а. а. Бэнэдыктынаў уступіў Эрнэст Рэррыер, віцэ-старшыня швайцарскае Народнае Рады і сябра швайцарскай дэлегацыі ў Жэнэве.

**Найвышэйшае дзяржаўнае ад'значэньне для Прымаса Польшчы.** На ўгодкі сьвята польскай незалежнасьці, 11 лістапада, Кардынал Глёнд, Прымас Польшчы, атрымаў найвышэйшае ад'значэньне ў Польшчы — ордэр Белага Арла.

**Разрост місіянэрскіх сэмінарыяў у дзікіх краёх.** У 1906 годзе было ў місійных краёх 129 сэмінарыяў для падгатоўкі сьвяшчэньнікаў, сяньня ўжо гэткіх сэмінарыяў 377.

**Адкрыцьце Украінскай Калегії ў Рыме.** 13 лістапада с. г. адбылося пасьвячэньне нававыбудаванай Калегії для украінцаў студэнтаў у горадзе Рыме. Пасьвячэньне зрабіў Я. Прав. Япіскап Кацылоўскі з Перамышля ў прысутнасьці Кардынала Сінчэро і іншых важных гасьцей.

Пасьля абеду украінскія япіскапы і гадунцы новай калегії былі прыняты Сусьветным Архірэем Папай Рымскім, які прамовіў да іх і пабагаславіў. (КАП).

**Ліквідацыя сэкты годуроўцаў у Ваўкавыскім павеце.**

Сэкта годуроўцаў каля Ваўкавыска зусім перастала існаваць. Духоўны сэкты Язэп Янік прыняў кальвінскую веру, а ўся яго паства перайшла да каталіцкае царквы.

**Бэрэзно,** вояв. Валынскае. Місіянэркі ўсходня-славянскага абраду Найсьвяцейшага Сэрца Ісусавага пачалі працу ў Бэрэзьне.

**Адкрыцьце Місійнага Інстытуту ў Рыме.** (КАП). 17-XI адбылося адкрыцьце новага Місійнага Інстытуту праз Сьв. Кангрэгацыю Распаўсюджваньня Веры для вышэйшых навуковых місіялёгічных студыяў.

**Пасьвячэньне царквы пры Рускай Калегії (Russicum) у Рыме.** 6 лістапада адбылося вельмі ўрачыстае пасьвячэньне царквы Сьв. Антонія ўсходня-славянскага абраду пры „**Russicum**“ у Рыме. Гэта старадаўная царква была зусім запушчаная, фашысты мелі там свае сходы. Цяпер вельмі прыгожа абноўлена, размаляваў яе рускі мастак Мальцэв. Гэту прыгожую царкву ўсходня-славянскага абраду Папа Рымскі аддаў рускай калегії („**Russicum**“). Урачыстасьць пасьвячэньня трывала ад 8½ гадзіны раніцы да 1½ па палудні. Быў прысутны пры гэтай урачыстасьці Я. Эмінэнцыя Кардынал Сінчэро, сэкрэтар Сьв. Усходняй Кангрэгацыі, Я. Прав. Япіскап д'Эрбіньі і іншыя.

У рускай калегії выхоўваюцца таксама і беларусы ўсходня-славянскага абраду.

**Пачаткі салезіянцаў усходня-славянскага абраду.** А. а. Салезіянцы выслалі 30.X. с. г. 10 вучняў да Турыну, якія, па скончаньні навук, маюць вярнуцца ў Польшчу і залажыць галіну ўсходня-славянскага абраду. Як ведама, аа. Салезіяне, галоўным чынам, маюць у сваёй апецы бедных хлопцаў, якіх вучаць рамёслаў, дзеля гэтага вельмі пажаданыя і для верных усходня-славянскага абраду.



# Усячына.

## Творы Сьв. Пётры Скаргі на беларускай мове.

Некаторыя творы Пётры Скаргі вельмі хутка былі перакладзены на іншыя мовы. Чужынцы хутка пазналі вартасьць іменна **„Казаньняў на нядзелі і сьвяты цэлага году“**, ацэньваючы ў іх грунтоўную навуку, удатлівы выклад Сьв. Пісьма і будуючыя ды пры гэтым поўныя прастаты практычныя датарнаваньні. Першымі выйшлі ў сьвет іх нямецкія і чэскія пераклады.

Але Скарга на першым месцы хацеў служыць усім сваім земляком. Дзеля гэтага, праўдападобна яшчэ пры яго жыцьці, выйшаў арыгінальны твор Скаргі на беларускай мове пад назовам **„Оборона Собору Берестейскаго“** (Вільня 1597), які дасюль перахоўваецца ў Віленскай Публічнай Бібліятэцы. Таксама, мусі пры жыцьці Скаргі, выйшаў беларускі пераклад яго „Żywotów Świętych“, які цяпер недзе загінуў. Як адзін, так і другі твор быў праўдападобна перакладам, зробленым на вачох самога аўтора.

*Х. П. Р.*

(„Dwutygodnik Diecezjalny“ Nr. 18 за 1912 г.).



# Календар

на м—ц Сьнежань. 1932 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | СЬНЕЖАНЬ | | | ŚNIEŽAŃ |
| 1 | С | Наума | 14 | S | *Such.* Špirydona |
| 2 | Ч | Аўвакума | 15 | Č | Walerjana |
| 3 | П | Сафоніі | 16 | P | *Such.* Eŭzebija |
| 4 | С | Барбары | 17 | S | *Such.* Łazara |
| 5 | Н | *26 н. па С.С.Д.*, Саўкі | 18 | N | *4 N. Adw.* Nadč. N.Dz.M |
| 6 | П | **Мікалая Цудатворцы** | 19 | P | Urbana pap. |
| 7 | А | Амброжага | 20 | A | Teofila i Taw. muč. |
| 8 | С | Патапія | 21 | S | Tamaša |
| 9 | Ч | **Неп.Пачацьце Пр. Баг.** | 22 | Č | Zenona |
| 10 | П | Міны | 23 | P | Wiktoryi |
| 11 | С | Данілы стоўпн. | 24 | S | *Kućcia*, Adama i Ewy |
| 12 | Н | *Праайц.*, Сьпірыдона | 25 | N | **Kalady, Božaje Naradž.** |
| 13 | П | Лукіі муч. | 26 | P | **Sciapana** |
| 14 | А | Тырса і Тав. | 27 | A | Jana Ap. i Ewan. |
| 15 | С | Елеўфэрага | 28 | S | Dzietak muč. |
| 16 | Ч | Агея | 29 | Č | Tamaša K. |
| 17 | П | Данілы пр. і 3 муч. | 30 | P | Aŭhienia |
| 18 | С | Савасьціяна | 31 | S | Sylwestra |
| | | | | | STUDZIEŃ 1933 h. |
| 19 | Н | **Нядз. Сьв. Айцоў** | 1 | N | **Nowy Hod, Abraz. P. I.** |
| 20 | П | Ігната Боган. | 2 | P | Imieńnia Jezus |
| 21 | А | Юльяны | 3 | A | Genowefy |
| 22 | С | Анастасіі | 4 | S | Tytusa b. i m. |
| 23 | Ч | 10 муч. Крэтэйскіх | 5 | Č | Telesfora Pap. i m. |
| 24 | П | *Куцьця*, Аўгеніі | 6 | P | **Try Karali** |
| 25 | С | **Каляды, Нар. І. Хр.** | 7 | S | Lucyana |
| 26 | Н | **Нядз. 1 па Н. Х. Саб. Пр. Б.** | 8 | N | Seweryna ap. |
| 27 | П | **Сьцяпана мч.** | 9 | P | Marcyjany p. |
| 28 | А | Домны | 10 | A | Ahatona |
| 29 | С | 14.000 дз. заб. у Віфлеем. | 11 | S | Hygina p. |
| 30 | Ч | Анісіі муч. | 12 | Č | Św. Siamji |
| 31 | П | Мэляніі | 13 | P | 40 žaŭnieraŭ muč. |

Рэдактар а. Антоні НЕМАНЦЭВІЧ.

